# ДОБРЫ ВЕЧАР

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993 ВЕРАСЕНЬ 27 Панядзелак

№ 182 (617)

Цана 10 рублёў


■ НЕАФІЦЫЙНЫ АФІЦЫЁЗ

## ШТО ПЕРАШКОДЗІЦЬ НАСТУПНЫМ РАЗАМ?

Уласн. інф. «ДВ».

Як вядома, у пятніцу ў Маскве кіраўнікі дзяржаў і ўрадаў краін СНД падпісалі пагадненне аб утварэнні эканамічнага саюза.

Цікава, што справа, якая выклікала шматмесячныя спрэчкі і дэбаты па ўсёй прасторы былога СССР, справа, на якой неаднойчы спрабавалі спекуляваць самыя розныя палітычныя сілы, гэтая справа пасля свайго ажыццяўлення і ўвасаблення не выклікала бурнай рэакцыі друку і палітыкаў.

У чым жа прычына такога спакою?

Як сведчыць аналіз, новы саюз — пакуль што не больш чым дэкларацыя, якая абвяшчае пэўныя прынцыпы эканамічнага супрацоўніцтва. Гэта пацвярджаецца і меркаваннямі Прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына, які ў інтэрв'ю адразу пасля падпісання «гістарычнага акта» адзначыў, што перш чым саюз запрацуе, пройдзе нямала часу. У прыватнасці, дзеля яго ажыццяўлення неабходна яшчэ ўзгадніць і прыняць каля трыццаці пяці дакументаў.

Акрамя таго, многім экспертам заключэнне эканамічнага саюза падаецца бессэнсоўным. Асабліва ў сувязі з надзвычай недакладнай і няўдалай фармулёўкай яго наймення. Бо саюза як сукупнасці дзяржаў-удзельніц СНД ужо не атрымаецца ніколі, і гаварыць мае сэнс хіба пра нейкае прававое забеспячэнне эканамічных стасункаў у межах Садружнасці.

Пасля таго, як хасбулатаўска-бабурынская кампанія аказалася ў Расіі фактычна па-за законам, прыхільнікам «единой и неделимой» у незалежных краінах давялося рэзка перагледзець свае выказванні адносна і Віскулёў, і СССР, і інш. Нават наш беларускі ўрад здолеў у адну ноч усвядоміць сваю памылку, зноў горача палюбіць СНД і далучыцца да змагання за ўмацаванне суверэнітэту краіны.

Тым не менш адносін да эканамічнага саюза ніхто з урадоўцаў не змяніў, бо лозунг разарваных эканамічных сувязей застаецца галоўным і адзіным козырам у руках выканаўчай улады супраць абвінавачванняў у яе некампетэнтнасці і няздольнасці кіраваць гаспадаркай краіны.

І сапраўды, неабходнасці эканамічнага саюза магло б не стварыцца наогул, каб строга і паслядоўна выконваліся заключаныя міждзяржаўныя пагадненні, каб строга і паслядоўна эканомікі дзяржаў СНД скіроўвалі на шлях рэформаў, структурнай і тэхналагічнай перабудовы.

Тым не менш сёння саюз заключаны, і ў нас ёсць цудоўная магчымасць на працягу бліжэйшых месяцаў ацаніць яго эфектыўнасць. Вымушаны прызнацца, што яго доўгі і шчаслівы лёс нам здаецца вельмі праблематычным.

Справа ў тым, што кепскаму танцору, як кажуць у народзе, што-нішто перашкаджае. Нашаму ўраду дагэтуль перашкаджала быццам бы адсутнасць эканамічнага саюза. Застаецца пачакаць, што яму пачне перашкаджаць праз некалькі месяцаў.

## ПРАБЛЕМЫ АДУКАЦЫІ — АГУЛЬНЫЯ

Ларыса КОКТЫШ, «ДВ».

У Мінску праходзіла канферэнцыя міністраў адукацыі краін СНД — Арменіі, Беларусі, Казахстана, Кіргізскай Рэспублікі, Малдовы, Расіі, Туркменістана, Узбекістана, Украіны. На ёй у якасці назіральнікаў прысутнічалі прадстаўнікі Азербайджана і ЮНЕСКА.

Гэта ўжо другая сустрэча. Удзельнікі абмеркавалі пытанні аб дзяржаўных стандартах адукацыі, аб адукацыі прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей, аб стварэнні інфармацыйнага банка даных, а таксама аб стварэнні бюлетэня «Вестник образования».

На прэс-канферэнцыі, што адбылася, удзельнікі сходу адказалі на пытанні журналістаў.

Падкрэслівалася, у прыватнасці, што праблема стандартаў у адукацыі сфармулявана менавіта ў апошні час. У дзяржавах прымаюць свае нацыянальныя праграмы. Таму вельмі важна, каб усё ж захавалася тая сумяшчальнасць, якая была раней. Такім чынам, разнастайнасць адукацыйных сістэм у дзяржавах прадугледжвае і іх нейкую еднасць. Пытанне аб абмене студэнтамі, адпаведных квотах і г.д. на пасяджэннях не абмяркоўвалася. Аднак, гаварылася на прэс-канферэнцыі, сёння стан такі, што ў прыватным парадку праблема вырашаецца даволі проста — калі ёсць грошы, можна працягваць адукацыю ў любой краіне СНД. Закранута была і праблема мовы.

— Гэтае пытанне трэба вырашаць на дзяржаўным узроўні, — такога меркавання прытрымліваліся ўдзельнікі канферэнцыі.

Былі таксама дадзены тлумачэнні аб банку даных у сістэме адукацыі і аб яго дзейнасці. Мяркуецца, што з яго дапамогай будзе набірацца патрэбная інфармацыя, з'явіцца выхад і на міжнародныя сеткі, а таксама магчымасць праводзіць адпаведную аналітычную дзейнасць і г.д.

Удзельнікі канферэнцыі паведамілі журналістам аб прыняцці рашэння аб стварэнні і выпуску «Вестника образования». Месцам выдання яго будзе Мінск. У канцы гэтага года плануецца падпісаць канчатковыя дакументы.



■ КРЫМВЕСТКІ

## АБРАБАВАНЫ АЎТОБУС

Як паведаміў карэспандэнт БелаПАН у Вільні, на днях на аўтастрадзе Мінск—Вільня прыкладна ў 10 км ад памежнага паста ў Мядзінінкаі быў учынены ўзброены напад на пасажырскі аўтобус. Ноччу аўтобус спыніў мужчына ў форме літоўскага паліцэйскага. Калі шафёр адчыніў дзверы, у салон уварвалася група з узброеных васьмі чалавек з панчохамі на галовах і ў спартыўных куртках. Бандыты збілі пасажыраў, адабралі ў іх каля 10 тысяч долараў. Гэта адно з буйнейшых і асабліва цынічных абрабаванняў за апошні час.

## НАЗВАЎСЯ ДЗЯДЗЬКАМ

**БелаПАН ужо паведамляў аб здарэнні на станцыі Маладзечна. У дзяжурнай часці аддзела ўнутраных спраў на транспарце жыхар Докшыцкага раёна Камароўскі заявіў аб выкраданні яго трохгадовай дачкі Алёны. З дапамогай мытнікаў дзяўчынку знайшлі на станцыі Гудагай у цягніку Мінск—Вільня, а выкрадальнік, назваўшы дзіця сваёй пляменніцай, жыхар Вільні Лядзяеў быў затрыманы, апытаны і адпушчаны. Як паведаміў карэспандэнту БелаПАН начальнік Маладзечанскага АУСТ І.А.Казарскі, Лядзяеў растлумачыў матывы выкрадання тым, што ў яго нібы нядаўна памёр сын і ён хацеў дзяўчынку ўдачарыць. На думку Іосіфа Антонавіча, такое тлумачэнне выклікае сумненне ў шчырасці Лядзяева: ён і яго жонка нідзе не працуюць, для ўдачарэння патрэбны дакументы на дзіця і г.д. Так што невядома, які лёс быў угатаваны Алёнцы. У той жа час, крымінальная справа не будзе ўзбуджана, таму што адказнасць за выкраданне дзяцей, паводле беларускага заканадаўства, можа наступіць, калі яно здзейснена з карыслівых пабуджэнняў ці ў нізкіх мэтах. Лядзяеў, з яго слоў, хацеў дзяўчынку ўдачарыць. Каб правесці поўнацэннае даследаванне, неабходна выязджаць у Вільню, а для гэтага патрэбна валюта, дазвол і дапамога літоўскага боку, на што асабліва разлічваць не прыходзіцца.**

БелаПАН.

■ РЭХА ПАДЗЕЙ

## ДЭПУТАТЫ АД АПАЗІЦЫІ — У ПАДТРЫМКУ ЕЛЬЦЫНА

**У сувязі з падзеямі ў Расійскай Федэрацыі і дачыненнях у Беларусі апазіцыя Беларускага народнага фронту «Адраджэньне» ў Вярхоўным Савеце прыняла заяву.**

— Сітуацыя, якая склалася ў Расійскай Федэрацыі, мае пэўнае падабенства са становішчам на Беларусі, — адзначаюць дэпутаты. — У Расіі, гэтак жа, як і ў Беларусі, захаваліся старыя камуністычныя структуры ўлады, выбраныя яшчэ ў СССР, у іншай дзяржаве з іншымі мэтамі і функцыямі. Гэтыя органы страцілі сваю легітымнасць, але працягваюць дзейнічаць і існаваць.

Гэтак жа, як і ў Беларусі, Вярхоўны Савет Расіі двойчы нелегітымны: і як старая савецкая структура, і як выбарчы орган, які незаконна забараніў рэферэндум аб нечарговых выбарах. Як і ў Беларусі, Вярхоўны Савет Расіі ператварыўся ў антынародны сход камуністычнай рэакцыі і наменклатуры, дзейнасць якога накіравана на разбурэнне эканомікі, на тармажэнне рэформаў і знішчэнне незалежнасці суверэнных дзяржаў. Прадстаўнікі Вярхоўнага Савета ў Расіі (Хасбулатаў, Руцкой, Бабурын і інш.) гэтак жа, як пракамуністычныя дэпутаты ў Беларусі, адкрыта заяўляюць аб сваіх імкненнях аднавіць СССР і імперскі абшар. Сувязі і ўзгодненасць у дзеяннях беларускай і расійскай камуністычнай рэакцыі відавочныя.

Апазіцыя Беларускага народнага фронту лічыць поўнасцю апраўданымі і правамоцнымі дзеянні Прэзідэнта Расіі Ельцына па роспуску Вярхоўнага Савета і прызначэнні нечарговых выбараў у новы прафесійна дзеючы парламент Расійскай Федэрацыі.

Падзеі ў Расіі — добры прыклад для Беларусі. Нечарговыя выбары, як заяўлена Вярхоўным Саветам, павінны адбыцца ў нас вясной 1994 года. Гэтыя выбары, калі трымацца закону і права, могуць прайсці толькі на тых умовах, за якія законна выказаліся 442 тысячы грамадзян Рэспублікі Беларусь, што паставілі свае подпісы за рэферэндум.

Існаванне старых структур улады на Беларусі, у Расіі, на Украіне і іншых месцах небяспечна для грамадства. Некампетэнтныя дзеянні наменклатурнага беларускага ўрада і пракамуністычнай большасці Вярхоўнага Савета сталі прычынай рэзкага пагаршэння ў эканоміцы Беларусі, затармазілі рынкавыя рэформы, прывялі да штучнага паліўна-энергетычнага голаду, да правалу намаганняў па стварэнню паўнацэннай фінансава-крэдытнай сістэмы. Урад не разумее сутнасці працэсаў, што адбываюцца ў эканоміцы, не адстойвае нацыянальныя інтарэсы дзяржавы, сваімі дзеяннямі і бяздзеяннем опрые карупцыі, умацаванню мафіёзнай сістэмы і не бачыць у гэтай сітуацыі ніякага разумнага выхаду са створанага тупіка, акрамя як набіраць замежныя крэдыты, здаваць нацыянальную маёмасць чужой краіне, гандляваць суверэнітэтам. Такі ўрад не можа і не павінен кіраваць дзяржавай.

Першачарговай задачай дэпутаты ад апазіцыі лічаць ажыццяўленне адстаўкі Савета Міністраў і стварэнне часовага (да выбараў парламента) кааліцыйнага ўрада Беларусі, а таксама мэтазгоднасць абмеркаваць гэтае пытанне ў бліжэйшы час на канферэнцыі ўсіх некамуністычных і антыімперскіх сілаў, якія ўсведамляюць каштоўнасць незалежнасці і свабоднага дзяржаўнага развіцця Беларусі.

■ УЧОРА Ў МАСКВЕ

## «КТО-ТО ТЕРЯЕТ, А КТО-ТО НАХОДИТ...»

Уласн. інф. «ДВ».

Усе, хто цікавіцца падзеямі гэтых дзён у Маскве, з пэўнай доляй нецярпення чакалі выхадных дзён — працоўны маскоўскі люд, скарыстаўшы свой законна зароблены уік-энд, павінен быў колькасна вызначыць прапорцыі між прыхільнікамі Хасбулатава і Ельцына.

Што ж, масквічы сваё слова сказалі — і падчас канцэрта на Чырвонай плошчы, які давалі спадар Растраповіч і Нацыянальны сімфанічны аркестр ЗША, і падчас шэсця і мітынгу ля сцен Массавета. Дзесяткі тысяч людзей глядзеліся пераканаўча і ўнушальна супраць купкі фанатычных абаронцаў расійскага парламента.

Дагэтуль, праўда, невядома, супраць каго ж Беламу дому абараняцца? Адміністрацыя Прэзідэнта, прадстаўнікі сілавых міністэрстваў катэгарычна адмаўляюцца ад быццам бы існуючага намеру штурмам узяць парламент. У выніку дэпутатам нічога не застаецца, як палохаць саміх сябе: Хасбулатаў перыядычна крычыць пра пачатак штурму, а Ісакаву падалося, што іншага выйсця з Белага дома, акрамя як у магілу, не відаць.

Тым часам ужо гучаць прапановы пра так званы «нулявы варыянт», калі і Прэзідэнт, і парламент адзываюць свае ўказы, а адначасовыя выбары павінны вызначыць вярхоўную ўладу. Ёсць ужо мноства каментатараў, якія лічаць такі шлях найбольш удалым, адзіным шляхам, што выратуе ад грамадзянскай вайны.

Вымушаны адзначыць, што мы з такім меркаваннем згадзіцца не можам. Па-першае, грамадская думка ўсё больш рашуча схіляецца на бок Прэзідэнта, і прычын ісці на палітычны кампраміс у апошняга няма. Па-другое, у Барыса Ельцына няма зараз неабходнасці мяняць стэрэатып, які выпрацаваўся ў значнай часткі расіян: Прэзідэнт, маўляў, мужык круты — што захоча, тое і зробіць. Нікога не баіцца. А трэцяе, бадай, самае галоўнае: прыкметы грамадзянскай вайны ў сённяшняй Расіі адсутнічаюць цалкам, а таму няма і прычын ісці на нейкія паслабленні для каманды Белага дома.

Сёння спрэчка ў Расіі, па сутнасці, вядзецца выключна па аднаму пытанню: праводзіць выбары па схеме Ельцына альбо адначасова абраць парламент і Прэзідэнта. Белы дом паступова пачаў вывозіць зброю (па паведамленнях, частка аўтаматаў ужо здана ў Массавет), а ў адносінах да злачынцаў, якія атакавалі штаб войскаў СНД, вядзецца следства.

Кроў забітых людзей і ідыёцкія законы накшталт смяротнага пакарання для прыхільнікаў Ельцына канчаткова скампраметавалі «беладомцаў» і патрабуюць самай жорсткай адказнасці за падобныя бяздумныя і небяспечныя палітычныя гульні.

Хасбулатаў, Бабурын, Макашоў згубілі ўсё. Тым часам як Ельцын, Гайдар і Яўлінскі пачалі па сутнасці перадвыбарную кампанію. І, мяркуючы па ўсім, падтрымку народа яны знаходзяць...

СЁННЯ — СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ ТУРЫЗМУ

## ЛЮДЗІ ІДУЦЬ ПА СВЕЦЕ

Іван КАХНОВІЧ.

**Хто з нас хоць раз не быў у турыстычным паходзе. Вогнішча, юшка з дымам і камарамі, песні пад гітару, палатка... Здаецца, што гэта было ўжо ў некаторым другім вымярэнні і не з намі. Бо час цяпер зусім іншы. Як у тым анекдоце, калі ў армянскага радыё запыталі: «Ці можа карова з горада-героя Масквы дайсці да горада-героя Валгаграда? — Не, яе з'ядуць у горадзе-героі Туле». Калі ў вас не захавалася руказака ці палаткі, кедаў і штармоўкі яшчэ з тых часоў, то можаце і не купіць — можа, і ёсць яны, але вельмі дарагія. Нездарма ж замест «Спорттавараў» з'явіўся «Сполдынг» на адной з цэнтральных вуліц горада — гэта як «знак бяды» турызму. А яшчэ ж трэба есці ў паходзе. Але для таго, каб назапасіць нешта, пэўна, лепш амаль не есці да вандроўкі...**

**І тым не менш, людзі ідуць па свеце. Як мне паведамілі ў гарадскім турклубе, толькі гэтым летам мінскія самадзейныя турысты трапілі ў Карэлію, Крым, Карпаты, нават на Алтай і Каўказ. Але вельмі далёка ўжо не ад'едзеш — граніцы ж, і не толькі ў нас, замыкаюцца ўсё больш шчыльна. Дарога патрабуе «расійскіх» грошай і не малых, «выпаў» з турысцкіх маршрутаў самалёт. Вось і лічыце, як сёння выжыць турысту. Менавіта так стаіць пытанне. І хаця ў «Чырвоную кнігу» запісваць людзей з рукзаком не трэба, але трэба і не даць ім «загінуць». На большае яны не разлічваюць і нічога ні ў кога не просяць. А па-ранейшаму збіраюцца купкамі, дагаворваюцца, знаходзяць, выбіваюць і... едуць, і ідуць. Дык няхай вецер дзьме толькі ў вашы ветразі, неўтаймаваныя вы душы!**

### КАЛЯНДАР

Панядзелак, 27 верасня

СОНЦА — 6.03/17.58.

Даўжыня дня — 11.55.

МЕСЯЦ — поўня 30 верасня,

усход — 15.11/захад — 0.37.

ІМЯНІНЫ

Сёння:

Праваслаўныя — УЗДЗВІЖАННЕ ЖЫВАТВОРЧАГА КРЫЖА ГАСПОДНЯГА. Аднадзённы пост.

Каталіцкія — Вінцэнта, Юстыны.

Заўтра:

Праваслаўныя — Акакія, Мікіты, Парфірыя, Стэфана.

Каталіцкія — Вацлава, Пілімона.

НАРОДНЫ КАЛЯНДАР:

З Уздзіжаннем, святам ушанавання крыжа, перапляліся і старыя славянскія традыцыі. Да гэтага дня ў полі павінна быць усё прыбрана. Адлятаюць у вырай апошнія птушкі, спыняецца рост раслін. Лічылася, што змеі ў гэты дзень забіваюцца ў норы, а мядзведзі кладуцца ў бярлогі.



■ АФІЦЫЙНА

## АБ СЯРЭДНЯМЕСЯЧНАЙ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАЦЕ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ

*Дзяржкамстат Рэспублікі Беларусь паведамляе, што сярэднямесячная заработная плата рабочых і служачых у студзені-жніўні 1993 года склала 30644 рублі і ўзрасла ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года ў 9,9 раза. У жніўні яна дасягнула 58041 рубля (у ліпені была 44234 рублі).*

**Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу.**

■ ЭКАНОМІКА І ЎЛАДА

## БСПіА — ЗА ДАТЭРМІНОВЫЯ ВЫБАРЫ

Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».

Адбылося пасяджэнне праўлення Беларускага саюза прадпрымальнікаў і арандатараў. На ім аб рабоце, выкананай кіруючымі органамі за тры месяцы, паведаміў старшыня БСПіА М.С. Куняўскі. Так, саюз аказаў прававую дапамогу 26 прадпрыемствам, членам яго; яшчэ 12 спраў разглядаецца ў судзе. Дадзена 36 кансультацый па эканамічных пытаннях (падатковым, аховы маёмасці, прыватызацыі і г.д.). Адбыліся сустрэчы з прадстаўнікамі 9 міжнародных арганізацый, у тым ліку крэдытна-фінансавых. На іх абмяркоўваліся пытанні падрыхтоўкі кадраў, навучання рынкавай эканоміцы, адкрыцця філіялаў замежных банкаў, некаторыя іншыя.

У парадку заканадаўчай ініцыятывы ўнесены ўдакладненні ў «Закон аб прадпрыемстве» і «Закон аб уласнасці». Яшчэ да двух законаў удакладненні рыхтуюцца.

БСПіА выступіў таксама супраць стварэння манапалістычных структур, калі пад выглядам дзяржканцэрнаў фактычна ўтвараюцца міністэрствы, якія вядуць наступ на прыватызацыю і арэнду. Саюз мае прапановы па спрашчэнню разлікаў з краінамі бліжняга замежжа; сумесна з іншымі саюзамі-членамі канфедэрацыі вытворцаў і прадпрымальнікаў рыхтуюцца папраўкі да законаў аб падаткаабкладанні. За гэты час таксама праведзены два міжнародныя семінары, навукова-практычная канферэнцыя па дзейнасці прыватызаваных прадпрыемстваў гандлю.

Праўленне адобрыла зробленае выканаўчымі органамі.

Віцэ-прэзідэнт БСПіА Ю.А. Весялоў у сваім выступленні выказаў пазіцыю саюза да выбараў у органы ўлады, якія набліжаюцца. Прапанавана шырэй выкарыстоўваць права БСПіА на вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты, падтрымліваць разважных кандыдатаў іншых партый і грамадскіх арганізацый. Навуковай групе БСПіА даручана да снежня распрацаваць канцэпцыю праграмы БСПіА да выбарчай кампаніі, якая павінна адбыцца. (Канцэпцыя будзе зацверджана праўленнем). У спрэчках па дакладу Ю.А. Весялова члены праўлення выказвалі розныя думкі наконт палітычнага і эканамічнага становішча рэспублікі, шляхоў іх паляпшэння. Адзін з іх — напомніць Вярхоўнаму Савету аб рашэнні пра датэрміновы самароспуск, патрабаваць яго і ў ходзе выбараў у новы, прафесійны парламент актыўна працаваць, вылучаць ад саюза, працоўных калектываў кандыдатаў, рыхтаваць іх да выбараў і працы ў парламенце.

Праўленне згадзілася з гэтым і прыняло адпаведную рэзалюцыю.

■ ПАМЯТЬ

**СЕГОДНЯ славной дочери белорусского народа Вере Хоружей исполнилось бы 90. Но судьба распорядилась иначе: она не дожила и до сорока.**

**Уже перед войной Вера Захаровна была известна как активист революционного движения в Западной Беларуси. Верной своему народу она осталась и в годы Великой Отечественной. Вместе с мужем пришла она в числе первых в партизанский отряд, которым командовал Василий Корж. В первом же бою муж погиб. Она осталась в тылу врага, несмотря на то, что ждала ребенка.**

**Вскоре по заданию руководства отряда для связи с Большой землей ее перебросили за линию фронта. Обосновалась Вера Захаровна в Пермской области, гда у нее и родился сын. Но долго отсиживаться с детьми в теплом доме она не могла: не таков был ее характер. Спустя четыре месяца она уже организует в Витебске группу женщин-подпольщиц, которые активно действуют в тылу врага, нанося немалый вред фашистам.**

**К сожалению, деятельность группы была непродолжительной. Гитлеровцам удалось выследить подпольщиц и бросить в тюрьму. Позже многих, в том числе и Веру Захаровну, расстреляли. Но благодарная память о ней осталась.**

**НА СНИМКЕ: Вера Хоружая.**

**Снимок из фототеки БЕЛИНФОРМа.**

■ БІРЖАВЫЯ НАВІНЫ

## НЕ ТАПІ КАЛЕГУ, ДОЛАР!

Заканамернай рэакцыяй на зніжэнне больш чым у тры разы прапанавання валюты ЗША на праведзеных 22 верасня таргах Міжбанкаўскай біржы ў параўнанні з узросшым попытам на яе стаў рост курса долара адразу на 310 пунктаў. Цяперашні курс склаў 3510 беларускіх безнаяўных рублёў за долар. Падтрымала салідарнасць і нямецкая марка, якая «папраўілася» на 350 пунктаў і стала каштаваць 2250 рублёў.

Такім чынам, на праведзеных таргах атрыманы наступныя вынікі па валюце **долар ЗША**:

у таргах прынялі ўдзел 13 банкаў

| | |
|---|---|
| першапачатковы курс | 3 200 |
| курс таргоў | 3 510 |
| аб'ём продажу | 1 543 000 |
| попыт | 3 954 000 |
| прапанаванне | 1 194 000 |

Вынікі таргоў па валюце **нямецкая марка**:

у таргах прынялі ўдзел 12 банкаў

| | |
|---|---|
| першапачатковы курс | 1 900 |
| курс таргоў | 2 250 |
| аб'ём продажу | 737 000 |
| попыт | 2 257 000 |
| прапанаванне | 291 000 |

БЕЛІНФАРМ.

